Opł… 
№ … …ьня, 14 ліпня 1928 году. Год II.
Цана асобнага нумару 25 грошай.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |



## Сьвітае...

Мы не аднойчы на старонках „Беларускага Дня" гаварылі аб тым, што датуль беларускае пытаньне ня будзе разьвязана ў Польшчы, пакуль усе нашыя культурныя сілы не сконсолідуюцца, пакуль не перастануць хадзіць рознымі дарогамі, губячы сваю энэргію ў узаемным змаганьні кожнае групы процiў усіх іншых.

Другое, ад чаго на гэтых-жа старонках мы ставілі ў залежнасьць разумную і спагадную для нас разьвязку беларускага пытаньня і зьвязаных з ім культурных, гаспадарчых і палітычных асягненьняў, было тое, каб перамагчы абасобленасьць нашу, каб заінтарасаваць польскае грамадзянства, кіруючае лёсамі дзяржавы ў слушнасьці нашых дамаганьняў, каб знайсьці сярод польскіх групаў і грамадзкіх слаёў спагаднікаў, якія-б нас зразумелі і, ў імя дабра дзяржавы і вялікага заданьня паразуменьня паміж беларусамі і палякамі, сталіся нашымі таварышамі ў змаганьні за зьдзейсьненьне дамаганьняў усяго беларускага грамадзянства ў Польшчы.

Маёвы пераварот 1926 г. пераход кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі Польшчы ў рукі першага яе грамадзяніна і будаўнічага якраз адкрываў дарогу да магчымасьці спаўненьня беларускіх дамаганьняў.

„Беларускі Дзень" верыў у гэтую магчымасьць, бо пасьля мая 1926 г. на справы нашага жыцьця перасталі аказваць пераможны ўплыў тыя людзі, якія нам гатавалі магілу і якія адносна беларускага пытаньня мелі адну праграму — нішчыць беларускую сьведамасьць і вынарадаўляць беларусаў.

Пасьля мая эндэцыя, з яе пракрокамі Грабскімі ды іншымі, перастала іграць кіраўнічую ролю ў дзяржаве і толькі пасьля мая 1926 г. пры кіраўніцтве дзяржаваю новых чыньнікаў, на чале з Маршалкам Пілсудскім, беларускае пытаньне можа быць разьвязана і будзе разьвязана ў напрамку зьдзейсьненьня слушных дамаганьняў нашага народу — так гаварылі і верылі мы ў „Беларускім Дні", адчуваючы і сьцьвярджаючы такую-ж веру ў беларускім грамадзянстве.

Мы ня былі максымалістымі ў сваём жаданьні разьвязкі беларускае праблемы адным росчыркам пяра, бо і беларусы і польскае грамадзянства ня былі да гэтага прыгатаваны. Беларусы хадзілі рознымі, падчас крывымі, дарогамі, на якія іх папхнула эндэцыя і яе палітыка ў беларускім пытаньні.

Польскае грамадзянства было вельмі варожа ўспасоблена да беларусаў, якіх прадстаўляла сабе, як заведамых ворагаў дзяржавы. Бо такое прадстаўляньне нас, такая характарыстыка давалася нам эндэцкімі часопісямі, палітыкамі і неарыентуючымся ў беларускай справе палітычным мяшчанствам.

І мы ўказвалі на неабходнасьць пашырэньня сярод польскага грамадзянства, прынамсі тутэйшага, разумных, дакладных інфармацыяў аб беларусах і беларускім пытаньні, абзнаямленьня гэтага грамадзянства

з важнасьцю яго дзеля ўзмацаваньня і ўлегалізаваньня беларускае праблемы ў Польшчы, паміма паклёпу польскае эндэцыі.

Гэтым аб'ясьнялася пазыцыя „Беларускага Дня“ падчас выбараў 4 і 11 сакавіка 1928 г., калі мы былі за пасьпехам г. зв. адзінкі, бо бачылі ўжо тады, што толькі выбраныя беларускімі галасамі паслы з групы супрацоўніцтва з урадам Маршалка Пілсудскага стануць на дарогу конкрэтнае разьвязкі беларускага пытаньня, прынамсі падыдуць да яго, як прыяцелі, а не ворагі.

Гісторыя апошніх дзён паказала, што мы ня мыляліся.

За ўраду Маршалка Пілсудскага кранулася з месца школьная палітыка адносна беларусаў. Мы атрымалі каля 40 школаў беларускіх і двуязычных, Наваградзкая Гімназія дастала частковае прызнаньне правоў публічнасьці і матар'яльную дапамогу, а нядаўна беларускія гімназіі выпусьцілі 10 першых матурыстых, якім ня трэба бадзяцца па заграніцах, бо з дыплёмам беларускіх гімназіяў іх прымуць усе школы ў Польшчы.

Ведама ўсё гэта не разьвязвае вастраты беларускага пытаньня ў Польшчы, сапхнутага эндэцыяй на бездарожжа ненавісьці і шовінізму, але зьяўляецца першымі крокамі аздараўленьня адносінаў паміж беларускім грамадзянствам і дзяржавай.

Далейшая рэалізацыя нашых культурных і гаспадарскіх патрэбаў не за гарамі, і мы верым у яе зьдзейсьненьне пры сучасным кіраўніцтве дзяржаўных справаў Польшчы.

Бо з аднаго боку памалу паступае консолідацыя беларускіх культурных сілаў, якія пакідаюць неразумную і безадказную опозыцыю проціў ураду, а з другога боку паважныя польскія групы нашага краю становяцца нашымі саюзьнікамі і прыяцелямі, а не ворагамі, як было дагэтуль.

Гэтая помач прышла якраз ад групы паслоў нашага краю з партыі Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага, якія прайшлі ў Сойм па сьпіску № 1.

Ніжэй мы друкуем пастановы краёвае Віленска-Наваградзкае групы паслоў Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам, вынесеныя ў справе беларускага пытаньня.

Гэта першы голас польскіх паважных колаў, маючы ня толькі дэкляраціыйнае значэньне, бяз жаднае магчымасьці зьдзейсьненьня.

Вітаючы гэтыя пастановы, як пачатак новае эры ў гісторыі польска-беларускага збліжэньня, мы верым у блізкае зьдзейсьненьне вынесеных пастановаў тым больш, што яны былі прыняты пры ўдзеле высокіх урадоўцаў, кіруючых справамі нашага краю.

Якнайхутчэйшае зьдзейсьненьне гэтых пастановаў прынясе карысьць і нам і дзяржаве, пачынаючы новую эру ў польска-беларускім зьбліжэньні.

Чакаем.

---

## Пастановы Віленска - Наваградзкай групы паслоў Б. Б. С. з Урадам.

Як мы ўжо падавалі 17 чэрвеня ў Наваградку сабраліся паслы Наваградзкага і Віленскага Округу Беспартыйнага Блёку, дзе адбывалі нарады над справай беларускага школьніцтва, як і наагул над беларускай справай.

Нарады гэныя былі адложаны на 4 ліпня. У выніку нарадаў прысутныя, між якімі, апрача паслоў і сэнатараў, былі прадстаўнікі Наваградзкага і Віленскага ваяводзтваў і куратар школьнага вокругу, пастанавілі:

1. Надаць беларускаму школьніцтву характар дзяржаўнага ў граніцах, пацьверджаных об'ектыўнымі патрэбамі беларускага насельніцтва.

2. Зьмяніць закон ад 31 ліпня 1924 г., які трактуе аб арганізацыі школьніцтва, з мэтай даньня магчымасьці выкананьня першага пункту; выключэньне нацыянальнай барацьбы ў галіне школьніцтва, адступаючы ад сыстэмы школьных плебісцытаў і ўтраквістычнае сыстэмы.

3. Неадкладнае скасаваньне распараджэньня міністра Дабруцкага ад 30 сакавіка 1927 г. № 1-2170 28 аб школьных абводах.

4. У зьвязку з скасаваньнем вышэй успомненага распараджэньня правясьці рэвізію пастановаў аб адчыненьні народных школаў, якія былі адчынены на падставе школьнага плебісцыту ў 1927 г.

5. Адчыненьне з пачаткам будучага школьнага году дзяржаўнай беларускай вучыцельскай сэмінарыі ў Вільні.

6. Да часу, калі беларускія прыватныя гімназіі ў Вільні і Наваградку атрымаюць правы дзяржаўных гімназіяў, забясьпечыць гімназіям і інтэрнатам належную матар'яльную дапамогу.

7. Наданьне ўспомненым гімназіям ад пачатку будучага году права публічнасьці.

8. Калі будуць прыняты на дзяржаўны этат беларускія гімназіі ў Вільні і Наваградку, перавядзеньне беларускіх прыватных гімназіяў ў Радашкавічах і Клецку на дзяржаўныя беларускія 7-мёх клясовыя або прафэсіянальныя школы.

9. Утварэньне ў Віленскім Унівэрсытэце катэдры або лектаратаў беларусазнаўства.

10. Утварэньне Віленскім Куратарыюмам рэфэрату беларускага школьніцтва і камісіі дзеля апрацоўкі і выданьня праграмаў навучаньня і падручнікаў для беларускіх школаў — з удзелам прадстаўнікоў беларускага культурна-прасьветнага руху.

11. Увядзеньне школьнага самаўраду ў паўночна-ўсходніх ваяводзтвах так, як уведзены школьны самаўрад у цэнтральных ваяводзтвах.

---

## Да нашых чытачоў.

Нашае сялянства паволі прывыкае да друкованага слова і хціва шукае яго.

На вёсцы нашай стварыліся кадры чытачоў, якія могуць служыць моцнай апорай для кожнай беларускай часопісі, каторая захоча нясьці ў вёску сьвятло і добрую раду.

Асабліва прыхільна спатыкае нашае сялянства часопісі культурна-гаспадарчага характару, менш зьвяртаючыя ўвагі на справы палітычныя, а больш закранаючыя патрэбы штодзеннага гаротнага жыцьця нашага земляроба. Гэткую газэту сялянства шануе, зьбірае гадавікі і бачыць у ёй свайго шчырага прыяцеля.

Без усялякай прыкрасы можам сказаць, што гэткай шанаванай і хціва шуканай газэтай зьяўляецца „Бел. Дзень".

На кожную заяву адміністрацыі газэты, аб спыненьні высылкі яе чытачом, неакуратным у аплаце падпіскі, адміністрацыя атрымлівае тысячы пісьмаў з просьбай ня спыняць высылкі газэты і абяцанкамі, што грошы зараз будуць высланы. Другая, невялічкая частка чытачоў, заместа абяцанак, адразу прысылае падпісную плату.

Нажаль абяцанкі гэтыя з месяца на месяц і застаюцца толькі „абяцанкамі-цацанкамі".

Шукаючы газэты і цэнячы яе — большасьць нашага сялянства хацела-б мець яе дарма.

Мы ня хочам дашукавацца прычынаў, якія склаліся на тое, што ў сялянства нашага вытварыўся пагляд на газэту, як на нейкі гасьцінец, прысыланы шчодрай рукой добрага прыяцеля.

Адно можам сказаць, што газэта каштуе грошы і калі яна сапраўды зьяўляецца патрэбнай селяніну, то ён мусіць плаціць за яе так сама, як плаціць за іншыя, патрэбныя ў яго жыцьці, рэчы. Хто мае грошы на пару піва, той мусіць мець грошы і на аплату газэты, якая б сапраўды абслужыла ўсе патрэбы яго.

Выдавецтва „Бел. Дня" думае, што зразуменьне гэтае прыйшло.

Матар'яльнае становішча „Бел Дня" не дае магчымасьці жыць далей „абяцанкамі-цацанкамі", і тым з нашых чытачоў, каторыя да канца гэтага месяца ня вышлюць падпісной платы, высылка газэты будзе спынена.

*Выдавецтва „Бел. Дня".*

## Заява.

Апошнімі часамі ў віленскіх газэтах паяўляліся розныя, супярэчныя адна аднэй весткі аб нейкай акцыі маёй, маючай на мэце ні то коордынацыю працы „Бел. Дня" з працай Т-ва „Прасьвета", ні то атрыманьне концэсіі на лёто. Ня ведаю, каму патрэбна было распаўсюджваньне гэтых плётак, ня маючых пад сабою ніякага рэальнага грунту і зьяўляючыхся нічым болей, як творам дасужай фантазіі газэтных хронікераў.

Жывучы цяперака на вёсцы і бываючы ў Вільні толькі наездам, я ня меў магчымасьці своечасна рэагаваць на ўсе гэныя высcаныя з пальца весткі, і, каб урэшце спыніць іх, заяўляю, што аб ніякіх концэсіях я ня рупіўся і ня руплюся, ніякай „акцыі" ў кірунку коордынацыі працы „Бел. Дня" з Т-вам „Прасьвета" я ня вёў і не вяду.

*Ф. Умястоўскі.*

## Нешчасьлівая вёска.

Пажар, які з невядомых дагэтуль прычын узьняўся 5-га і 20-га чэрвеня ў вёсцы Панямонцы, Беліцкай вол. Лідзкага павету — зьнішчыў яе дашчэнту. Выгарэла ўся вёска і на месцы, дзе яшчэ нядаўна лілося ціхай хваляй спакойнае сялянскае жыцьцё, цяпер стаяць толькі рэшткі абгарэлых комінаў і попелішчаў, нясецца плач і стогн бяздомных сялян і жаласьліва выюць сабакі.

Сялянства павінна найлепш зразумець долю гэных сваіх нешчасьлівых братоў — пагарэлых Панямонцаў і прыйсьці ім з грашовай дапамогай, каб хаця трошкі памагчы іх бядзе. З мэтай збору гэтай дапамогі стварыўся спэцыяльны Камітэт помачы пагарэльцам вёскі Панямонцы, які заклікае ўсіх, у кім жыве пачуцьцё літасьці для бяздомнага чалавека, адгукнуцца на яго вокліч і, хто чым можа, пасьпяшыць на помач Панямонцам, прысылаючы ахвяры па адрэсе: Poczta Bielica, pow. Lidzkiego, Komitet niesienia pomocy wsi Poniemuńce, gminy Bielica.

---

М. ЗОШЧЭНКО.

# ГІПНОЗ.

— Магу, таварышы, з пыхаю сказаць, што за ўсё сваё жыцьцё ніводнага дохтара не забіў, ня выцяў нават. З адным дохтарам, узапраўды прышлося счапіцца, але, апрача слоўнай дыскусіі, з маханьнем прадметамі, нічога ў нас гэткага над'істотнага ня было. Пальцам яго, чорта лысага, не крануў, хаця, кажучы праўду, моцна рукі сьвярбелі. Толькі сьведамасьць мая мяне ўтрымала, а то-б, далібог адвазіў-бы.

Гэтая поўная сьведамасьць і яго мэдыцынскую жонку не дапусьціла кранyць.

А яна мяне, браточкі, надта-ж неакуратна з сенцаў вышіхала.

І зяпала яшчэ, зараза, што я яе ў бок штурхнуў.

А гэткую бабу, браточкі, не кранеш, як на цябе конна сядзець і да вугла даедзе.

А прыйшоў гэта я, таварышы, да гэтага мэдыка па неадкладнай патрэбе — на гіпноз, значыцца.

Папрасіў я яго зрабіць так, каб я курыць кінуў. А то гэткая на мяне жарсьць найшла: куру кожную хвіліну і ўсё мне мала. І на грошы лішні звод, і язык пухнець.

Вось і кажу я, парадзілі мне, яму і тлумачу. Ён кажа:

— Гэта, кажа, можна, раз-два зрабіць.

Пасадзіў ён мяне на крэсла, казаў з кішані табаку (махорку) выцягнуць і пачаў перад мордай рукамі трасьці і шаптаць нешта.

Раптам, і ўзапраўды мляўкасьць на мяне напала. Заплюшчыў я вочы і ні аб чым ня думаю. Толькі думаю: каб не забыць мне, думаю, махоркі, на стале.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Падумайма самі.

Працэс ліквідацыі шнуравое гаспадаркі і ўсяго таго зла, якое зьвязана з ёю, шыбка праводзіцца на беларускіх землях. З кожным месяцам прыбывае шмат новых хутарных сялянскіх гаспадарак, яшчэ больш вёсак чакае правядзеньня гэтае вялікае рэформы. Сялянства зразумела, што першым крокам паправы свайго палажэньня зьяўляецца ліквідацыя „шнуроў“, верставых вузкіх палосак зямлі, якая вельмі слаба радзіла і якую трудна было як сьледуе выкарыстаць.

На пашырэньне пераходу на хутары, ці г. зв. камасацыю мела ўплыў звальненьне сялян у многіх валасьцях ад аплаты за нарэзку на хутары і правядзеньня гэтага на кошт дзяржавы, якая зацікаўлена ў разумных зямельных адносінах і ў багацьці свайго сялянства.

За некалькі гадоў не астанецца ўжо ніводнае вёскі „на шнурох“, усюды будуць хутары. Але гэтае імкненьне сялянства да паправы свайго матар'яльнага палажэньня, да выхаду з залежнасьці ад „обчаства“, якое было пры шнуравой гаспадарцы, зьяўляецца толькі першым неабходным крокам у паправе зямельнае гаспадаркі ў нас.

Дагэтуль беларускія сяляне ад даўных часоў гаспадарылі на трохпалёўцы, неразрыўна зьвязанай са „шнурамі“. Шматпольная сыстэма ўправы ральлі на беларускіх сялянскіх землях дагэтуль была немагчымая. Яе нашае сялянства ня знае і нават пасьля пераходу на хутары ня ўмее павясьці гаспадарку паводле іншага спосабу, ніж той, які ўжываўся дагэтуль, на шнуравой гаспадарцы, а дагэтуль панавала ўсюды трохпалёўка.

І вось другім крокам у паправе сялянскае гаспадаркі ў тых вёсках, якія перайшлі на хутары, зьяўляецца новы спосаб гаспадаркі, спосаб шматпольнае ўправы ральлі і поўны разрыў з даўно ад'жыўшай і шкоднай трохпалёўкай — жыта, ярына, папар.

Але завядзеньне шматпольля вымагае веды і прывычкі да яго. Вельмі трудна, гаспадарыўшы паводле трохпольля, перайсьці на шматпольле, асабліва калі сяляне ня бачылі ніколі, якім спосабам трэба такую шматпольную гаспадарку вясьці і як найлепш разьбіць свой хутар на палеткі.

Дзеля гэтага ў многіх вёсках, якія скасавалі шнуры, ізноў на хутарох пануе пастарому трохпольная сыстэма гаспадараваньня на зямлі, бо сяляне ня ведаюць, як пазбавіцца гэтага ворага нашага сялянства, ад'жыўшае ўжо і нідзе сярод культурнага сялянства ня існуючае трохпалёўкі.

Сельска-гаспадарчая школа дагэтуль ня была папулярнай у нас. Да 1914 г. не ахвотна ішлі сялянскія дзеці ў гаспадарчыя школы, бо іх было вельмі мала і лёгка можна было знайсьці працу на іншым полі. Толькі цяпер пачынае шырыцца на нашай вёсцы пашана да сельска-гаспадарчае веды і школы, калі сялянскія дзеці ня могуць знайсьці працы ў другіх галінах, эканамічнага жыцьця, а з другога боку адчыніліся сельска-гаспадарчыя школы, дзе нятрудна знайсьці веду і навучыцца рацыянальнае і разумнае гаспадаркі. Але пашырэньне культурных, са школьнай ведай, гаспадароў ідзе памалу і толькі ў другім пакаленьні беларускія сяляне будуць вясьці свае гаспадаркі паводле таго спосабу, які пазнаюць у школах.

А трохпалёўку трэба касаваць ужо цяпер, бо інакш хутар ня дасьць таго даходу, які можна і трэба мець з зямлі, каб здолець аплаціць усе выдаткі і мець свой хлеб.

Дзеля гэтага сяляне на новых хутарох павінны выкарыстаць чужую веду і чужую помач, павінны зварочвацца па раду да вучоных аграномаў, якія знаходзяцца пры кожным павятовым сойміку якраз дзеля аказваньня парадаў і помачы сялянству.

---

У гэтым часе дохтар кажа:

— Скончана. Зрабіў Вам, што трэба. Сэанс лячэньня скончаны.

— Вось, кажу, дзякуй Вам!

Дастаў я грошы, заплаціў яму і пайшоў да хаты.

На сходах раптам неспакой мяне агарнуў: „Колькі-ж я гэтаму чорту, дай Божа памяць, заплаціў?“

Памятую — ляжаў у мяне ў кніжцы рубель, трохрублёўка і пяцёрка.

Раскрыў кніжку — рубель ёсьць і трохрублёўка ёсьць, а пяцёркі, як ніколі і ня было.

„Ах, каб цябе ліха, думаю, па абмылцы найвялікшую паперку ў руку ўсунуў“.

Каб ты перадчасна зайшоўся!

Дайшоў да хаты і ледзь ня плачу, гэтак мне пяцёркі шкада.

У хаце мая жонка мне і кажа:

— Што, кажа, новым спосабам лячыцца захацеў? Вось, кажа, і разрахоўвайся. Нагыпнозіў, кажа, табе чортаў мэдык замест рублёўкі пяцёрку яму даць, а ты — з прыемнасьцяй. Ляпей-бы, кажа, курыў-бы, чорт лысавы, чымся пяцёркамі дзеля дохтара кідацца.

Тутака і ў мяне ў галаве прасьвятлела.

— А і праўда гэта, зачараваў ён мяне, думаю. Ах ты, думаю, крывапіўца, гэткія ідэі прышчапляеш.

Зараз-жа апрануўся, пакуль злосьць не адыйшла і да яго.

— Чапаць, — кажу — я вас ня буду. Мне сьведамасьць мая не дапушчаець дахтароў чапаць, але — кажу — гэта нетактоўна з вашага боку, прышчапляць людзям гэткія ідэі.

А ён як быццам спалохаўся і аддаець мне грошы назад.

Я яму кажу:

— Цяпер, кажу, аддаеш, а раней аб чым думаў? Таксама, кажу, практыка!

У гэты момант, на маё пытаньне, мэдыцынская жонка зьяўляецца. А мэдыка я нават пальцам не кратуў. Мне сьведамасьць не дапушчаець іх чапаць. Зачэпіш іх, а пасьля па судох без канца будуць цягаць.

А курыць я і ўзапраўды ўсё-ж такі кінуў.

Пераклаў *Я. П.*

Бо толькі аграном патрапіць даць практычную раду, як найлепш падзяліць хутар на шматпольле, што на кожным палетку сеяць і ў якой кальейцы зьмяняць засеў.

Правідловае чарадаваньне засеву на шматпольным хутары павялічыць у шмат разоў карысьць з зямлі і ўзбагаціць сялян, а прынамсі забясьпечыць ім хлеб праз увесь год, чаго пры трохпалёўцы няма.

Сяляне павінны падбаць, каб адразу пасьля нарэзкі на хутары, пераходзіць на шматпольле і адразу атрымаць на месцы ад агранома параду, як завясьці шматпольле. Ніякія кошты, калі нават трэба заплаціць аграному, тут ня могуць быць перашкодай, бо карысьць ад добрага шматпольля аграмадная.

Павятовыя аграномы такія парады даюць дарма, а прыватныя за малую аплату. Адно толькі, каб аграном на месцы, на самым полі паказаў, як разьбіць хутар і якое збожжа сеяць, ды ў якім парадку.

Гэта першы спосаб самапомачы ў сялянскай хутарнай гаспадарцы.

Другіх вельмі многа. І тут трэба паступаць паводле разумнае парады аграномаў, выкарыстоўваць дапамогу сельска-гаспадарчых арганізацыяў і крэдыту Дзяржаўнага Зямельнага Банку на паправу гаспадарак.

Трэба тварыць сельска-гаспадарчыя арганізацыі, выпісваць кніжкі, спраўджваць лектароў, вучоных і практычных аграномаў, адным словам дбаць аб тым, каб з зямлі ўзяць найбольш карысьці.

Зямля ў нас зьяўляецца адзіным варстатам працы і каля яе трэба хадзіць умела, з любоўю і ахвотаю. Толькі тады здолее пазбыцца свае бяды сялянства, ўзрасьце яго дабрабыт і праца ня будзе дарэмнай.

Самі сяляне, сваёю рупнасьцяй і стараньнем могуць паправіць свой лёс, бо ніхто так аб гэтую паправу ня можа дбаць, як сам селянін.

Аб гэтым кажа нам нашая прыказка:
„Старайся, нябожа,
а Бог дапаможа".

Але перш за ўсё трэба старацца самым.

*С.*

## Увагі аб зборцы сена.

Аднэй з найгалаўнейшых бадай у гаспадарцы пашаў ёсьць добрае сена. Ці йдзе ў гэтым выпадку гутарка аб сене лугавым, ці аб сене атрымліваным з гэтак званых кармавых расьлінаў, заўсягды ёсьць гэта паша, якая надаецца дзеля кожнага гатунку інвэнтару, паша, без якое ўзапраўды ня можна сабе ўцяміць якое-колечы гадоўлі. Гадоўля коняй, авечак, ці рагатае скаціны, без адпаведнага сена, абыйсьціся ня можа; у пэўных выпадках нават і ў гадоўлі сьвіней сена адыграваець вялікую ролю.

Дзеля гэтага для гаспадаркі маець вялікае значэньне запаўненьне сабе гэтае пашы ў колькасьці, якое хапіла-б на цэлы год і гэткае якасьці, каб яна з карысьцю для інвэнтару магла быць спажыта.

Ня будзем тутака гаварыць аб тым, якая гаспадарка колькі патрабуець сена, кожны гаспадар практычна пазнаець патрэбы свае гаспадаркі, а пры невялічкім высілку і шляхам аблічэньняў, лёгка патрапіць вырахаваць запатрабаваньне. Маем на мэце абгаварыць мэгчыма коратка і ясна, галоўным чынам, справы зборкі, сушэньня і перахоўваньня гэтага вельмі цэннага прадукту.

Калі гаворыцца аб якасьці сена, дык гэтай якасьці трэба дашуквацца, перш за ўсё ў вартасьці самое зялёнае масы, ужытае для пераробкі на сена, часу, у якім даконвалася зборка сена, у добрым высушэньні і ўрэшце ў перахове ўжо сабранага сена.

На сена ўжываем усялякіх расьлінаў і дзеля гэтага сена можам сабе падзяліць на тры гатункі, залежна ад паходжаньня: сена палявое, лугавое і з зяленіваў. Да сена палявога залічваем: сена з канюшынаў, цімахвейкі, райгрэсу ці нарэшце з мяшанак гэтых расьлінаў; да сена лугавога залічваем сена з натуральных і штучных лугоў, да сена з зяленіваў, сена атрыманае з расьлінаў збожжавых, як жыта, авёс, ячмень, альбо струковых, як гарохі, вікі, і г. д., сабраных у часе, калі яны былі яшчэ зялёнымі.

Вартасьць гэтых гатункаў сена ўжо дзеля іх паходжаньня будзе значна розьніцца. Да найлепшых гатункаў сена будзе належаць сена адтрыманае з канюшынаў, таму што яно мае ў сабе значную колькасьць пажыўнога бялку; яны, аднак, неадпаведны для маладога інвэнтару, а служаць пераважна, як дасканальная паша для дойных кароў, рабочых коняй і г. д.

Вартасьць сена лугавога бываець усялякая, залежна ад таго, з якіх траваў складаецца лугавая расьліннасьць і ці з траваў салодкіх, шляхотных, ці з траваў кіслых.

Добрае палажэньне лугу, умяркованая вільгаць, старанны дагляд за ім — вядуць да траваў шляхотных; на лугох-жа нізкіх, падмоклых недагледжаных, разрастаецца расьліннасьць кіслая.

Сена з лугоў добрых, траваў шляхотных, што да пажыўнасьці амаль што стаіць на роўні з сенам канюшыны; сена з лугоў кіслых тым менш варта, чым больш яно маець расьлінаў нешляхотных і часамі менш варта, чымся салома, а нават часта можа мець уласьцівасьці шкодныя, труцячыя.

Вартасьць сена з зяленіваў залежыць ад расьлінаў, з якіх яно складаецца, а таксама і ад часу, у якім было сабрана.

Сена з расьлінаў матыльковых маець большую вартасьць; сена з расьлінаў збажовых — меншую; сена з расьлінаў маладых маець больш сокаў кормных, чымся сена з расьлінаў старых, зьдзеравянелых.

З усяго вышэйсказанага вынікаець, што розьніцы, што да вартасьці сена, стасоўна да таго, з якога яны матар'ялу паходзяць, ёсьць вельмі вялікія і значна ўплываюць на самое спажываньне і пажыўнасьць гэнае пашы.

Кожная расьліна расьцець дзеля таго, каб запэўніць сабе можнасьць закрасаваньня, а далей вытварэньня насеньня, таму ў жыцьці расьліны ўся жыцьцёвая моц скіроўваецца да гэтае мэты. Расьліна ў пачатковым сваім існаваньні працуе ў роўнай меры пад'земнымі, як і над'земнымі сваімі часткамі, каб здабыць адпаведны лік корму, перарабіць яго для сябе, замагазынаваць і частку яго патоўпіць (зьмясьціць) у новай расьлінцы, у насеньні. Расьліна — гэта добры бацька сям'і, каторы зьбіраець ашчаднасьці для свае нашчадзі (патомства).

Калі насеньне ўжо дасьпее, расьліна лішак корму сабранага і прызначанага на патрэбы ўзгадаваньня насеньня, вяртаець з паваротам і магазынуець яго ў карэньнях, як быццам з той думкай, што ён прыдасца для наступнага пакаленьня. Дзеля гэтае прычыны ў маладых расьлінаў знаходзім расьлінныя сокі ў лёгка распушчальнай, лёгка прысвойванай зьвярынымі арганізмамі постаці. У тым часе, калі расьліна закрасуе, па меры яе дасьпеласьці, матар'ял, патрэбны дзеля будовы насеньня, пераходзіць да насеньня, а лішак пераходзіць у часьці пад'земныя, карэньні, а самая сьцябліна расьліны дзеравянее, часьці пад'земныя робяцца бяднейшымі ў лёгка прысвойваныя зьвярынымі арганізмамі, кормныя матар'ялы.

Даступныя як корм, азотныя зьвязы і цукры ў расьліны адцьвітаючай зьменшваюцца, павялічваецца затое колькасьць нераспушчальнага, а гэтым самым нястраўнага матар'ялу. Зразумела, што сена, прыгатаванае з расьлінаў позна сабраных, будзе менш вартасным, чымся сена з расьлінаў маладых у пачатку красаваньня, альбо найдалей падчас красаваньня. Да касьбы трэба прыступаць у часе, калі расьліны красуюць.

Кожнае спазьненьне прычыняецца да стратаў на кармавой вартасьці сена. Наагул расьліны лугавыя ёсьць расьлінамі трывалымі, гэта значыць, што яны размножваюцца часьцямі падземнымі праз некалькі гадоў; ёсьць аднак шмат траваў, каторыя істнуюць толькі пару гадоў, а нават толькі адзін год, калі-б мы ім не дазволілі дасьпець і асыпаць насеньне, яны-б загінулі, і пораст лугу быў-бы на другі год слабейшы. У такім выпадку сумысьля пазьней пачынаем касьбу, каб даць мажлівасьць гэткім расьлінкам высыпацца спосабам натуральным, заўсёды аднак мусім лічыцца з тым, што разам з расьлінамі карыснымі высыплецца шмат шкодных, каторыя зусім на лузе не патрэбны. Дзеля гэтага лепш падсяваць лугі, чымся спозьнівацца з касьбой.

Касіць можна альбо касой, альбо пры помачы машынаў. І адзін і другі спосаб ёсьць аднальково добры. Аднак, некаторыя гаспадары думаюць, што пры касьбе касою зьбіраецца большая колькасьць сена, — што ёсьць няпраўдай.

Касьба касяркай, апрача таннасьці і шыбкасьці працы, тым яшчэ выгаднейшая, што траву кладзець у танчэйшыя пракосы, тады калі касец згортвае сена ў пракос, дзеля чаго пракосы значна таўсьцейшыя, высыхаюць павальней і таму вымагаюць шмат больш працы.

Працэс пераробкі сьвежае зялёнае травы на сена палягаець на пазбаўленьні яе лішку вільгаці і на цэлым радзе фэрмэнтацыяў, якія ў часе сушэньня, а нават пазьней па перавозцы, ў часе дасьпяваньня сена адбываюцца. У зялёнай пашы знаходзіцца ў сярэднім 20% вады, у сене % вады зьмяншаецца да 14% і ніжэй. Сушэньне сена адбываецца рознымі спосабамі; найчасьцей з іх ужываныя зараз тутака абгаворым.

Падставаю сушэньня павінна быць гэткае сушэньне, якое пазволіла-б найхутчэй атрымаць сена з магчыма найменшымі стратамі ў кармавой вартасьці. Страты пры сушэньні могуць паўстаць: 1) альбо праз выпалосканьне часьцей, наймягчэй распушчальных дажджамі, што здараецца найчасьцей тады, калі працэс сушэньня адбываецца вельмі павольна, альбо дзеля неспамысных атмосфэрычных варункаў, на сена нападаюць тады плесьні і грыбкі, ўрэшце досіць вялікія страты маем ад частага пераварочваньня сена, таму што ў гэтым выпадку мэханічна адрываюцца найдалікатнейшыя часткі расьлінаў, краскі і дробныя лісткі, якія маюць у сабе найбольшую колькасьць корму.

Найчасьцей практыкаваны ў нас спосаб сушэньня сена, гэта сушэньне на паветры і сонцы, гэтак званае рабеньне зялёнага сена. Сена такое маець вельмі прыемны пах, і яго найлепш любіць быдла.

Скошаную раніцаю траву, калі на ёй абсохне раса, растрасаем старанна, па паўдні зьбіраем яе ў валы, каб перад самым вечарам злажыць ў невялічкія копкі. На другі дзень, калі раса зыйдзе, копкі зноў раскідаюцца, ў поўдзень пераварочваюцца, а пад вечар ізноў зьбіраюцца ў копкі, цяпер ужо ў большыя, з дзьвёх ці з трох у адну. На трэці дзень, робім гэтак сама, як учора, і калі пагода стаіць добрая, часта ўжо ў гэты дзень сена можам звозіць. Пры сушэньні гэткім спосабам, мусім зьвярнуць увагу на колькасьць людзей у адношаньні да плошчы лугу, каб тое, што скошана, магло быць штодня сабрана ў копкі, раскідана, ператрэсена і ўзноў пад вечар сабрана ў копкі. Калі-б нават падчас сушэньня прыйшлі дажджы, каб адно сена знаходзілася ў копках, вялікае крыўды яму ня зробяць. Што іншага, калі-б падсушанае сена было раскідана і ляжала ў пракосах. Звозіць сена можна тады, калі яно даволі сухое, а гэта пазнаем па тым, калі далікатнейшыя сьцёблы, калі іх скруціць, палопаюцца і разьдзяруцца. Раней названы спосаб сушэньня сена вельмі добры, але вымагаець большай колькасьці рабочых рук, а тым самым ёсьць каштоўны і пры вялікіх лугох амаль што немажлівы. Да нашых лугоў надаецца вельмі добра.

На вялікіх лугох лепш сена скасіўшы пакінуць у пракосах два-тры дні. Па гэтым часе, калі ёсьць пагода, можна сена злажыць у вялікія копы, якія могуць стаяць непарушаныя праз пяць, шэсьць дзён—і трава ў іх не псуецца. Трава праз гэты час настолькі прасохне пад уплывам самасаграваньня ў копках, што пасьля раскіданьня капіцаў, дзеля апошняга дасушэньня, можна беспасярэдня звозіць.

У краёх, якія маюць клімат марскі, гаспадары часта сушаць сена паводле спосабу „klapp-meyer'a", г. знача гэтак: скошаную траву, калі з яе ўжо абсохне раса, ў той-жа самы дзень складаюць у вялікія копы, (дыамэтр падставы 2,0—2,5 м.) пры складаньні моцна яе ўстоўваюць. Праз нейкіх 48—60 гадзін, залежна ад пагоды, тэмпэратура ўнутры капіцаў пачнець падымацца, сена робіцца бурае і пачынае набіраць прыемнага паху. Калі ў сярэдзіну капіцы ўсунем руку, дык даведаемся, што сена награлася вельмі моцна, гэта знача, што пара капіцы раскідаць; па раскіданьні сена высыхаець праз некалькі гадзін. Падобным спосабам робіцца гэтак званае бурае сена ў шмат якіх гаспадарках на Захадзе. У нас, аднак, паміма яго добрае якасьці, асабліва пры позных, васеньніх зборках канюшыны, сарадэлі, дзеля яго каштоўнасьці, не стасуюць.

Сена альбо перавозіцца да гумнаў, альбо складаецца ў стагі. Складаючы сена ў гумне, трэба яго добра ўтоптваць, так, каб у сене не патварыліся прадушыны, таму што ад іх пачынаецца плесьненьне і сена псуецца. Часьцей,

чымся да гумнаў, сена складаем у стагі; каб сена добра перахавалася, трэба яго так-сама вельмі старанна ўтоптваць.

Дзеля таго, што сярэдзіна стога, ўжо хоцьбы праз тое, што на стозе цэлы час ёсьць людзі, добра ўтоптана, трэба перш за ўсё зьвяртаць увагу на бакі стога, каб кірунак вонкавых сьцяблінаў быў заўсёды ўдол, што патрэбна, ў выпадку дажджоў, для сьцёку вады.

Пад стог трэба падасьлаць тоўсты слой саломы, і, закончыўшы стог, трэба яго пакрыць саломай, налажыць яе тоўстым слоем, прыкрыць галінамі, каб вецер ня мог раскідаць, галінкі прышпіліць да сена дзеравянымі калкамі. Стог павінен быць пачаты і скончаны ў адзін дзень.

Гаворачы аб перахове сена, трэба сказаць і аб саленьні. Сена горшае з лугоў кіслых, дрэнна сабранае, быдла ня вельмі ахвотна есьць. Вартасьці сена бязумоўна не палепшым, але можна палепшыць яго смак, солячы сена пры перавозцы. Соль хавае сена ад папсаваньня, паўставаньня плесьні і г. д. Сена, якое маем саліць, гэтак сама складаецца ці ў гумне ці ў стагі, толькі кожны слой сена перасыпаецца сольлю быдлячаю. Дзеля таго, што сена пасьля саленьня пацеець, трэба слаі сена перакладаць мятаю саломай; бяз гэтай асьцярожнасьці лёгка сена, ня гледзячы на тое, што пасолім, папсаваць.

Як ужо ўспаміналася, працэс сушэньня сена складаецца з двух момантаў: з самага сушэньня і з пэўнай фэрмэнтацыі. Падчас самага сушэньня, гэта можна лёгка заўважыць, ўзрастае тэмпэратура сена. Фэрмэнтацыя, аднак, ня скончыцца на полі, трываець яна і далей, у гумне ці ў стозе, характар яе, аднак, значна павальнейшы.

Першая фаза гэтае паўторнае фэрмэнтацыі трываець больш-менш каля шасьцёх тыдняў і падчас яе раскладаюцца і паўстаюць у сене ўсялякія зьвязы пахавыя. Некаторыя з іх могуць быць нават для інвэнтару шкоднымі. Дзеля гэтага лепш сьвежага сена, якое было ўжо ў гумне, быдлу, перад уплывам шасьцёх тыдняў, не даваць. Фэрмэнтацыя ня скончыцца і па шасьцёх тыднях, трываець і надалей, сена робіцца старым, прыбіраець няпрыемны смак, траціць пах, быдла яго неахвотна есьць, адным словам, траціць сваю кармавую вартасьць. І чым сена горш было сабрана, тым раскладовыя фэрмэнтацыі сена хутчэй адбываюцца, тым хутчэй робіцца яно нядобрым дзеля ўжытку.

(*„Tygodnik Rolniczy“*).

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Дэлегацыя прадстаўнікоў беларускага школьніцтва ў Наваградзкага ваяводы.

Наваградзкі ваявода п. Бэчковіч прыняў дэлегацыю ад беларускіх гімназіяў, з якой адбыў нараду ў справе беларускага сярэдняга школьніцтва. У склад дэлегацыі ўваходзілі: ад Віленскай беларускай гімназіі б. дырэктар яе Р. Астроўскі і ад Наваградзкае грам. П. Скрабец і М. Чатырка.

### Інтэрпэляцыя Беларускага Пасольскага Клюбу.

Пасол А. Стэповіч злажыў ад імя Беларускага Пасольскага Клюбу да міністра ўнутраных справаў інтэрпэляцыю ў справе забароны Ашмянскім Старастам наладжаньня спэктаклю ў гуртку Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў вёсцы Шутавічы Ашмянскага павету.

### Выстаўка Беларускага Хатняга Промыслу на Паўночным Кірмашы ў Вільні.

На Паўночным Кірмашы ў Вільні, што пачнецца сёлета 18 жніўня Сэкцыя Хатняга Промыслу Беларускага Гаспадарскага Зьвязу ладзе Выстаўку Беларускага Хатняга Промыслу Заходняе Беларусі. На выстаўцы можна будзе прадаваць выстаўленыя прадметы. Выстаўка абыйме па магчымасьці ўвесь хатні промысел. Між іншым будуць выстаўлены гэткія вырабы: 1) бандарныя, 2) такарныя, 3) гонты, 4) ганчарныя, 5) кафлі, 6) дахоўка, 7) млынавыя вырабы, 8) вырабы з саломы, 9) тканіны, 10) рукавіцы і панчохі, 11) сьвечкі, 12) мясныя вырабы і шмат іншых.

Беларускі Гаспадарскі Зьвяз заклікае ўсіх, каму дарага справа развою беларускага хатняга промыслу, наказаць аб мясцовасьцях, дзе насяленьне займаецца тымі ці іншымі вырабамі, ў Беларускі Гаспэдарскі Зьвяз (Вільня, Астрабрамская № 15 кв. 3).

### Зьезд Т-ва Беларускай Школы ў Наваградку.

24 траўня адбыўся ў Наваградку зьезд Т-ва Беларускай Школы. Былі заслуханы справаздача часовае Управы Т-ва, даклады з месцаў і выбрана заўсёдная Управа ў складзе: Логаша Мікалая, Пронькі Вечаслава, Валько Ганны, Пратасевіча Язэпа і настаўніка Наваградзкай Беларускай гімназіі А. Данілевіча. Даклад аб працы Т-ва на будучыну зрабіў прадстаўнік Галоўнае Управы Т-ва грам. Шырма.

На зьезьдзе былі прыняты рэзалюцыі: 1) прыняць вучасьце ў зьбіраньні ахвяраў на будову „Дому Беларускай Культуры“. 2) Прывітаць зволненых з вастрогу па суду культурных працаўнікоў — Ант. Луцкевіча, як старшыню Беларускага Навуковага Т-ва, Р. Астроўскага, як б. старшыню Т-ва Беларускай Школы і Шнаркевіча, як сэкрэтара.

Пасьля зьезду адбыўся спэктакль, ладжаны вучнямі Наваградзкай Беларускай Гімназіі. Праграму спэктаклю складалі „Апошняе спатканьне“ —Галубка, хор пад кіраўніцтвам грам. Шумскага і аркестар.

Трэба з задаваленьнем падкрэсьліць, што зьезд прайшоў у выняткова дзейнай атмосфэры, быў пазбаўлены якіх-бы то ні было палітычных мамэнтаў, і нават асабістых.

## Апошнія навіны.

**С. С. С. Р.** Присуд у працэсе савецкіх інжынераў. Маскоўскі суд закончыў разгляд справы савецкіх інжынераў, абвінавачаных у саботажы і эканамічнай контр-рэвалюцыі. Засуджаны 11 інжынераў на кару сьмерці, рэшта на катаргу ад 1-го да 10 гадоў, 6 чалавек, паміж іншым, двох немцаў, суд апраўдаў. 6 інжынерам засуджаным на кару сьмерці, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт

замяніў кару сьмерці на 10 год турмы. 5 інжынераў расстралялі.

**Дынамітны замах у Маскве.** Двох расейскіх афіцэраў, якія вярнуліся праз Баўгарыю і Румынію ў Расею, даканалі замаху на пашпартовае бюро галоўнага палітычнага ўраду. Афіцэры кінулі бомбу ўласнай фабрыкацыі, ад якой забіты адзін жаўнер, а другі цяжка ранены.

Адзін з афіцэраў забіты. Як аказалася, быў гэта афіцэр Врангеля, Радкевіч, другога ўдалося арыштаваць у Падольску, Маскоўскай губэрні.

**Мэксыка. Выбары прэзыдэнта.** Новым прэзыдэнтам Мэксыкі на месца Каллеса, вядомага, як вялікага прасьлядоўца каталікоў, выбраны гэнэрал Обрэгон. Новы прэзыдэнт заявіў, што будзе вясьці палітыку свайго папярэдніка Каллеса.

**Новыя прасьледаваньні каталікоў.** У Мэксыцы тайная паліцыя арыштавала 50 каталікоў з ксяндзом на чале ў прыватным памешканьні, дзе адпраўлялі імшу. Арыштованых абвінавачваюць у зламаньні рэлігійных законаў.

Пад мясцовасьцяй Леон дайшло да бітвы між паўстанцамі з ксяндзом на чале і ўрадовымі войскамі. Забіта 4 жаўнеры і 24 паўстанцы.

**Кітай.** Японскі ўрад пастанавіў вярнуць 7.000 салдатаў з Шантунгу ў Кітаі. Далей мае замер японскі ўрад вывесьці ўсе свае войскі з Кітаю і Манджурыі.

Палуднёвыя войскі здушылі паўстаньне ў правінцыі Шансі. Паўстаньне выклікаў сын Чанг-Тсо-Ліна. 2000 жаўнераў паўстанцаў узята ў палон.

**Чэхаславакія. Выключэньне камуністых.** Кангрэс цэнтральнай фэдэрацыі чэхаславацкіх прафэсіянальных саюзаў, на паседжаньні рады саюзу ў прысутнасьці 52 дэлегатаў, выказаўся за выключэньне камуністых з саюзу. За выключэньне выказалася 45 дэлегатаў. Пастанова мае вялікае значэньне, дзеля таго, што цэнтральная фэдэрацыя прафэсіянальных саюзаў налічвае агулам 450.000 сяброў, і мае агулам маемасьці на 1.300.000 карон.

**Польска-літоўскія перагаворы.** Польска-літоўскія перагаворы ў Коўне не далі ніякіх позытыўных рэзультатаў. Кіраўнік польскай дэлегацыі начальнік Голувко вярнуўся праз Рыгу ў Польшчу. Літоўская дэлегацыя высунула з свайго боку такія дамаганьні, на якія ні ў якім выпадку не магла згадзіцца польская дэлегацыя. Да такіх дамаганьняў належыць літоўскі проект дагавору, ў якім літоўцы хочуць прызнаць Віленшчыну за спрэчны абшар і дамагаюцца, каб Польшча забрала войскі з пагранічнае паласы шырокасьці 50 кілёмэтраў.

**Бэльгія. Сьмерць найбагатшага чалавека ў Эўропе.** Перад некалькі днямі трагічна згінуў бэльгійскі мільянэр барон Лёвэнштэйн. Абставіны сьмерці наступныя. Лёвэнштэйн ляцеў уласным самалётам з Англіі ў Бэльгію. Над каналам Ля-Манш Лёвэнштэйн выйшаў з кабіны. Замест трапіць у туалетную, ён building адчыніў дзьверы, якія вядуць на двор і выпаў з самалёту ў мора.

Ходзяць пагалоскі, што Лёвэнштэйн зусім не сядаў у самалёт, а вестка аб сьмерці распушчана сумысьля, каб такім чынам выклікаць спадак акцыяў багача і каб даць магчымасьць яму іх выкупіць па нізкіх цэнах. Сьледзтва ў справе сьмерці Лёвэнштэйна вядзе паліцыя трох дзяржаваў: Англіі, Францыі і Бэльгіі.

---

## Папраўка.

У № 24 (64) „Бел. Дня" пры ламаньні матар'ялу дапушчана была прыкрая блытаніна: на старонцы 2-ой, шпальта 2-ая ўнізе, у артыкуле „Успаміны з Пэрсіі", пачынаючы ад словаў: „асягнуць, а наадварот могуць выклікаць" і г. д. (8-мы радок зьверху) усё аж да канца шпальты ад носіцца да артыкулу „Трагэдыя Югаславіі" (тая самая шпальта, стар. 2-ая).

---

# Юрыдычныя парады.

**Грам. Ользе Міхальчук.** *Пытаньне.* Пасьля сьмерці дзеда, бацьку майму застаўся гарод, які быў даны яму, як мікалаеўскаму салдату. У 1915 годзе нашая сям'я была эвакуавана. Вяртаючыся дамоў у 1919 г. бацькі мае памёрлі, а я засталася малалетняй і была да гэтага году ў прытулку. (Цяпер мне 22 гады). Тымчасам гародам заўладаў сын брата дзедавага і пабудаваў там, на месцы будынкаў майго бацькі, якія былі спалены ў часе вайны — свае. Ці магу я адабраць гэную зямлю ад дзядзькі і зьнясьці яго будынкі, бо ён мне анічога не дае і як гэта зрабіць?

*Адказ*: Раз ваш бацька быў адзіным сынам і насьледнікам зямлі таго, каму яна была дана, то на гэную зямлю толькі Вы і маеце права. Сын брата дзедавага ня ёсьць насьледнік пры існаваньні Вас, патомка надзелапалучацеля ў простай лініі. Тое, што Вы ня маеце дакумэнтаў на зямлю—нічога ня знача. Трэба мець толькі мэтрыкі аб ураджэньні Вашым і сьмерці бацькоў. Тое, што зямля перайшла ад дзеда да Вашага бацька—дакажэце сьведкамі. Падайце ў Суд позву на дзядзьку і прасеце: прызнаць за Вамі права на гэтую зямлю, як насьледзтва пасьля бацькі, адабраць яе ад дзядзькі, які няправільна, карыстаючыся Вашым сіроцтвам і малалетнасьцю, захапіў зямлю, абавязаць яго зьнясьці будоўлю і перадаць зямлю Вам з заплатай за карыстаньне за ўвесь час.

**Інваліду Я. Кр—ку.** *Пытаньне.* Падчас вучэньня стральбе ў бытнасьць маю на вайсковай службе ў польскім войску я быў ранены ў грудзі. Куля засталася там і, як сьцверджана прасьвятленьнем,—засела ў лёгкіх. Часта чую недамаганьні і дзеля гэтага хацеў-бы папасьці да шпіталю, але не вайсковага, а цывільнага (напр. Сьв. Якуба ў Вільні) і падлячыцца. Вайсковая камісія лякарская прызнала мяне інвалідам III катэгорыі. Ці можна гэта?

*Адказ:* Зьвярнецеся да свайго Р. К. U. з заявай, што Вам далягае рана і сядзячая ў лёгкіх куля і прасеце, каб Вас скіравалі ў цывільны шпітаіь на кошт Мін. Вайсков. Справаў. Р. К. U. можа і павінна гэта зрабіць.

---

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".**

---

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны